*Жыве Беларусь!*




*Грамадзка-палітычная газэта* *Заснавана ў 1920 г.*

*№ 1 (15)* *6—22 студзеня 1993 г.* *Кошт 3 рублі*


# З НОВЫМ 1993 ГОДАМ!

*Язэп ПУШЧА*

**ВІНШАВАНЬНЕ**

Вее вецер, вее сьвежы,
Ходзіць з песьняй па бары.
Адыходзіць месяц сьнежань,
Адыходзіць год стары.

Хмары ясных зор ня засьцяць,
Надыходзіць Новы год.
З Новым годам, з новым шчасьцем,
Беларускі мой народ!



# НА КУЦЬЦЮ

## Брату, згубіўшаму Хрыста...

Марозная калядная ноч... Над зямлёю Беларусі прывабна мігцяць нябесныя зоркі, час ад часу ўздрыгваюць, аздабляючы Млечны Шлях, што распасьцёрся ў бясконцых Вышынях Гасподніх. Нерухома замерлі зорныя знакі задыяку, адмераўшы злое і добрае чалавечым хцівасьцям на цэлы рок...

Урачысты Сусьвет зноў прычакаў Дня Нараджэньня Хрыстовага. Сьледам Віфлеемскай зоркі час ад часу пралятаюць нябесныя камэты, пакідаючы стромкія знакі і пракакуючы шчасьлівую долю тым, хто нарадзіўся ў гэты час...

Калядная ноч — Хрыстова ноч, ноч Надзеі, Нараджэньня і Адраджэньня люду Беларусі. І зноўку наша Маці-Радзіма будзе накрываць калядны стол для дзяцей сваіх і народу паспалітага...

А на Зямлі — час аблуды, хцівасьці, здрады і захопніцтва земляў і душаў людзкіх ніяк яшчэ не сканае, цягнецца праз гады пякельны сьлед зоркі Чарнобыль...

... Духоўная пустэча...

... Табе, мой згублены Брат, шлюць вітаньне адзінокі калядны стол у бацькавай хаце, не дагледжаныя табою магілы родных, не перапрошаныя крыўды і сьлёзы Маці, Радзімы, здранцьвелыя ад холаду і ўзьнятыя да Неба рукі-гольлі дрэваў, душы ўсіх памерлых Дзядоў, што сабраліся на куцьцю да свайго нашчадка, які амаль страціў памяць, годнасьць, розум, сумленьне і мову...

... Цябе, мой згублены Брат, вітаюць заплаканыя ад зімы вокны роднага жытла, бо ня ведаюць, як хутка ты збудзеш яго каму-небудзь, каб напхаць доўгімі рублямі кашэль сваёй змалпаванай паловы, што сноўдае крумкачом над зьдзічэлым бацькавым гняздом...

... І пакарае цябе Бог, няверны Брат, праз дзяцей тваіх, бо яны ўзялі тваю навуку...

... Калядная пара. Пілiпаў пост. Сьцішэньне душы і цела. На местачковых вулках шпацыруе люд, што паціху вар'яцее ад дзікага рынку. Некаторыя яшчэ знаходзяць час зайсьці ў каталіцкую ці праваслаўную бажніцу, гавораць пацеры, спраўляюць абрад, глядзяць Богу ў вочы, слухаюць паўпалітычныя казаньні і... застаюцца бяз Боскай перамены ў душы і сэрцы...

... Калядны час... Насустрач даўняя знаёмая, сталага веку кабеціна. Твар зацяты. Злосна тузае мой рукаў і пытае, чаму я ня іду маліцца, а калі іду, то чаму не туды, куды яна. А я іду, іду з думкай пра Бога, Яго Сына... Яна ж толькі што выйшла з храма!..

Спыніўся, не пайшоў у бажніцу на тую казань. Злосныя вочы кабеты засталіся перада мною ў калядным холадзе. Хрыстос так і не нарадзіўся ў яе сэрцы, дзе знайшла свой прытулак палітыка нянавісьці. Яна падзяляе людзей на сваіх і ворагаў на вуліцы і ў бажніцы, а мо і пры калядным стале..

Калядны стол Беларусі! Цягнуцца да цябе ўсе: і шукальнікі «исконных земель», і «крэсавякі», і «самасційнікі». Жыруюць і бязбожнікі, забыўшыся на пост і павагу да народа-гаспадара. Смачна ядуць, бяруць і цягнуць, прысвойваюць і... не дзякуюць...

... Нехрыстовыя, багатыя жабракі!..

... Куцьця... Куцьця... Стол з сенам пад белым абрусам. У покуце — абразы, посныя стравы на стале, сярод іх — куцьця. Прыгатавала Маці. Бярэм па лыжцы кожнае стравы, хрысьцімся, смакуем. Паблісквае сьвечкамі і цацкамі прыбраная ялінка. Ціха гамонім, слухаем адзін аднаго, сваё сэрца, думаем пра Жыцьцё, пра тых, хто адыйшоў у лепшы сьвет... З-пад абруса на стале кожны выцягвае па адной сяніне. Калі трапіцца доўгая травінка — будзеш мець жыцьцё доўгае і заможнае. Жадаем адзін аднаму моцнага здароўя, шчасьця, радуемся нараджэньню Сына Божага Хрыста, сьпяваем калядкі...

... Марозная калядная ноч на зямлі Беларусі. Прывабна мігцяць зоркі нябёсныя... Дай, Божа, каб з нараджэньнем Сына Твайго Хрыста адрадзілася наша зямля, ачысьціўся душою беларускі народ. Няхай міне нас лёс раскіданага гнязда і Хрыстос народзіцца ў сэрцы кожнага жыхара Беларусі!

**Міхаśь АДАМІН.**

*Андрэй ПЯТКЕВІЧ*

## ◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊ НОВЫ ГОД ◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊

*Б'юць куранты над Масквою—*
*Новы год прыйшоў да нас.*
*Зычуць жыцьцё залатое,*
*Зычуць шчасьлівейшы час.*

*Навакол сьпяваюць песьні,*
*П'юць гарэлку і віно.*
*Станеш, вокал азірнешся—*
*Штосьці шчасьця ня відно.*

*Абяцаюць, абяцаюць—*
*Будуць грушы на вярбе.*
*Абяцаюць — а што маюць?*
*Усё сабе, сабе, сабе.*

*Сьмех і радасьць у народзе—*
*Над Масквой куранты б'юць.*
*Дык ці возьмем у Новым годзе*
*У абяцанках што даюць.*

*Налівай, народ, гарэлку,*
*Прапівай свой Новы год.*
*Але заўтра нас сустрэнуць*
*Сто мінулашніх клапот.*

*Заўтра зноў круціцца будзем,*
*Як ваверка, тыдні ўсе.*
*Дык калі нарэшце цуды*
*Новы год нам прынясе?*

**1.01 1987 г.**

## СЬЦІСЛЫМ РАДКОМ

■

*Ад сьнежня ў гарадзенскім друку забаронена прымаць абвесткі ад ахвотных набыць каляровыя мэталы, ордэны і мэдалі, а таксама ад тых, хто прапануе ўсялякія аракульскія паслугі. Падобныя абвесткі спрыяюць у дзейнасьці розным дзялкам. Аднак, калі застаўся попыт, будзе па-ранейшаму й прапанова. Абвесткі ж, як-ніяк, дапамагалі працаваць і праваахоўнікам.*

■

*Як стала вядома з неафіцыйных крыніц, у Горадні адбыўся сход прыхільнікаў аднаўленьня СССР, пераважна расейскіх афіцэраў. Завадатарам зьяўляецца былы штабіст палкоўнік Пастухоў. Як бачым, ворагі маладой Беларускай дзяржавы гуртуюцца. Лепей бы яны аднаўлялі гэты СССР у сябе ў Расеі, аднак дома ім жыць не падабаецца, а Рэспубліку Беларусь лічыць сваім домам таксама не жадаюць.*

■

*Белы хлеб робіцца хлебам для заможных. «Дарожны» каштуе 48 рублёў, а паляніца — ажно 72. Тым жа часам, уважаючы на пэнсіянераў, жытняя «цагліна» паранейшаму каштуе ўсяго 9 рублёў, цану на яе не павышаюць. Як там ні было, але жыцьцё на Беларусі пакуль самае таннае з усіх «братніх» рэспублік.*

**П. С.**

# ВУНІЯ ВЯРТАЕЦЦА...

Як вядома, ніводная з канфэсій не падлягала на Беларусі такім страшным нападкам, як вуніяцкая. У 1839 годзе расейскім царом вуніяцтва было ўвогуле забаронена. Беларускі народ быў пазбаўлены магчымасьці зьвяртацца да Бога на сваёй роднай мове. Дарэчы, на той час, больш за 70% насельніцтва Беларусі былі вуніятамі, г. зн. што амаль кожны з нас, чые карані паходзяць з беларускай зямлі, меў продкаў вуніятаў, пра якіх мы, на жаль, нічога зараз ня ведаем. Вуніяцтва было вельмі натуральным для нашага народа, так як мы знаходзімся на мяжы паміж каталіцтвам і праваслаўем.

26 сьнежня ў Горадні ў зале Дома народнай творчасьці ладзіла сваю прэзэнтацыю грэка-каталіцкая суполка, якая была зарэгістравана ў красавіку 1991 года. Як паведаміў у сваёй прамове вуніяцкі сьвятар айцец Віктар, усяго на Беларусі зараз налічваецца трынаццаць грэка-каталіцкіх суполак, дзесяць зь якіх ужо зарэгістраваны, а сьвятароў пакуль толькі чатыры.

Вуніяцтва,— адзначыў сьвятар,— нясе сваёй мэтай задзіночваць царкву, што зьяўляецца найважнейшай умовай хрысьціянства. Акрамя таго,— дадаў айцец Віктар,— царква сягоньня павінна быць па-сапраўднаму незалежнай ад дзяржавы і намэнклатуры і павінна змагацца за правы чалавека.

Коратка аб гісторыі вуніі распавядаў Ю. Тарасевіч, пасьля чаго быў паказаны відэафільм аб адраджэньні вуніяцкай царквы на Украіне. Дарэчы, фільм быў зроблены на ўкраінскай мове. Вельмі ўразіла тое, як бальшавіцкая ўлада адбірала ад людзей іх веру, нясла зьдзекі цэламу народу, які ўсё ж не пакінуў і не забыўся пра сваю рэлігію. Вунія на Украіне была скасавана на сто гадоў пазьней чым на Беларусі, відаць, таму зараз яна хутка паўстала зноў.

Вельмі прыемнай часткай гэтай імпрэзы былі хвіліны, калі перад прысутнымі распачаў выступленьне хор «Паходні» з каляднымі песьнямі. А на заканчэньне ўся зала разам з артыстамі выконвала стоячы «Магутны Божа».

Аднак, ня ўсё добра сягоньня складваецца ў гарадзенскіх вуніятаў. Яны і надалей ня маюць свайго храма, дзе маглі б зьбірацца і маліцца Богу. Таму, як паведамлялася на прэзэнтацыі, з новага года кожную нядзелю а 11-й гадзіне па адрасы: пр. Касманаўтаў, 4а будзе адбывацца богаслужэньне.

**Ф. МАЛЕЦКАЯ.**



## З ІМЕМ САЎДАЎСКАГА КАРАЛЯ

**Рашэньнем Гарадзенскага райвыканкама ў маляўнічым кутку вёскі Ласосна побач Горадні выдзелена 20 сотак зямлі для будаўніцтва мячэці на 100 вернікаў. Як паведаміў адзін з мясцовых лідэраў мусульманскага руху сп. Ю. Крыніцкі, сьвятыня будзе збудавана па праэкту Уфімскага муфіяту (епіскату). Цікава, што гарадзенскія мусульмане жадаюць надаць новаму прыходу імя караля Саўдаўскай Аравіі Фатха, які абяцаў выдзяліць на будоўлю 200 тысяч даляраў.**

**Г. СТРУМЕНЬ.**

## БУДЗЕМ ЛЯЧЫЦЦА АМЭРЫКАНСКІМ АСЬПІРЫНАМ

***Сёлета не павінна быць цяжкасьцяў з бактэрыйнымі прэпаратамі: вакцынамі, сываараткамі, гама-і імунаглабулінамі. Існуе дамова зь Менскім і Барысаўскім фармацэўтычнымі заводамі на пастаўку лекаў на Гарадзеншчыну. Акрамя таго падпісаны кантракты з Вэнгрыяй, Славеніяй, Польшчай, Балгарыяй, вядуцца перамовы зь Нямеччынай.***

***У нашых аптэках зьявіцца і амэрыканскі асьпірын, які зараз набываюць за мяжой. А ўвогуле дастатку мэдпрэпаратаў чакаць ня варта, было б хоць самае неабходнае.***

**М. Д.**

## САМАЛЁТЫ НА ПРЫКОЛЕ

**З-за дэфіцыту паліва вымушаны былі прыпыніцца шмат якія з рэйсаў аэрафлота. Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Гарадзенскім аэрапорце, не лятали ад нас самалёты на Менск. Кіеў, Санкт-Пецярберг, Растоў. Пакуль захаваліся толькі тры маршруты — штодзённы да Масквы, а таксама да Чалябінска і Алма-Аты.**

**М. Д.**

С. АСТРАВЕЦ

# ЗЬМЕНА ІМІДЖА

**ТРАВЕНЬСКІЯ ЗАНАТОЎКІ**

1.

Сёньня ў краме ў пакупніцкім збоі нейкая стараватая кабетка з папсаваным вокам прапанавала па-загаворшчыцку табе талён на віно... Чаму табе? Пітакі за рогам лаюцца мацерна, бо талёнаў болей няма. А ты свае чамусьцей марнуеш, чаго ня могуць уцяміць твае калегі.

Чаму ж яна з усіх абрала менавіта цябе? Які давер!.. У хаце зазірнуў у люстэрка. Стрыжаныя бы пожня валасы (бадай упершыню пасьля войска) й таксама першая мая барада. Вось табе, калі ласка, талён на віно!

З барадой было так. Думаў пачакаць, пакуль ня станеш пісьменьнікам. Але які крытэрый? Кніжка, членства ў сп? Першую ўжо два з паловай гады вытрымліваюць нібы які каньячны сьпірытус. Мне кажуць: нам падабаецца як ты пішаш, твая проза цікавая, у цябе добрая кніжка. Табе гэта й так вядома. Але выдаваць не сьпяшаюць. Вось ты й вырашыў болей не цягнуць з барадой.

Спачатку табе сказалі: выкапаны Емяльян Пугачоў. Падгаліў бараду, пастрыгся, новы камплімент — стаў нагадваць, нібы, Фідэля Кастра. Брэшуць, канешне. Нарэшце прынялі за свайго ў крамнай чарзе.

І вось ты — барадаты, маеш дзве нявыдадзеныя кніжкі й паўшуфляды іншых опусаў, «зь недрукаванай спадчыны», як гэта любяць у падобных выпадках казаць палякі. Ты пакудь сьціпла называеш сябе літаратарам.

2.

Цяпер ты разумееш, чаму ўпершыню за столькі часу пастрыгся каротка. Скончылася твае маўклівае процістаяньне установе, называнай «партыйная газэта», амаль лысаму рэдактару, барадатаму як К. Маркс й гаваркому як Троцкі сакратару рэдакцыйнага партбюра. Вонкавым супрацівам паўторна зрабіліся твае валасы, як ужо калісьці было, калі савецкая школа душыла тваё пакаленьне, выхаванае на творах «Дып Пёпл» й «Пінк Флёйд», «Квын» й «Назарэт», «Слэйд» ды іншых, на начных музычных праграмах радыё Люксэмбурга. Вы жылі ў тым сьвеце. Гэта была адзіная, падсьвядома абраная, магчымасьць уратавацца.

Былі, праўда, і самаспробы быць як усе. Напрыклад, выдатная адзнака за сьпісанае з камсамольскае газэты сачыненьне пра Бам. Або: ты хворы, у цябе 40-градусны грып, удзень замежныя радыёстанцыі маўчаць, а ўсе астатнія перадаюць уступны даклад Брэжнева на XXV зьезьдзе Кпсс. Табе кепска, ты ня можаш ані чытаць, анічога іншага, а таму спрабуеш засяродзіцца, дапяць сэнсу дэфармаванай мовы напаўжывога гэнсэка.

Увечары радыёстанцыя «Юность» перадае новы «бамны» шлягер Ю. Антонава са словамі «По новым просекам покатят колёсики. Бам! Бам! Бам!». Табе вельмі балюча, што модны сьпявак у якасьці музычнага пройгрыша «пазычыў» уступ зь песьні «Мы — амэрыканскі ансамбаль» гурта «Грэнд Фанк». Назаўтра, крыху ачуняўшы, ты пішаш водгук на нейкі выкрываўчы артыкул у «Камс. правде», спрабуеш сьціпла абараніць музычныя праграмы «Голаса Амэрыкі», з трымценьнем падпісваеш на капэрце свой адрас.

А ў Маскве ў крамлёўскім палацы зьездаў тым часам адбываецца гістарычны форум...

3.

Апынуцца не ў сваёй талерцы — не лепшае з пачуцьцяў. Разьмеркаваньнем выпускнікоў журфаку Бду, «ідэялагічнага» факультэта, займаецца асабіста Цккпб. Вялікі гонар! Табе аказваюць давер й беспартыйным прыймаюць у «партыйную» газэту. Ты рэгулярна сядзіш зь яшчэ двума-трыма маладзейшымі, таксама безбілетнымі, на партсходзе, яўка куды для вас абавязковая... У лепшым разе твае калегі камуністыя абмяркоўваюць «мерапрыемствы аб падрыхтоўцы да працы ў зімовых умовах». У галаве тваёй тым часам пяецца штосьці накшталт «Нас колотят уже чем попало!..» (ДДТ).

Рок дапамог табе выжыць і ў войску. Злоўлены вухам урывак попеўкі — й твае сэрца бьецца весялей. Ты знаёмішся з гаспадаром тэлеграфнага клясу, дзе цябе навучаюць друкаваць (прыдалося ў журналісцкай працы!), ён інтэлігэнтны чалавек і вы ходзіце разам у салдацкую кавярню піць раствaральную каву, хоць ён й фармаьна «дзед», а ты толькі пачынаеш сваё гібеньне й маркоту, велягурна названае ганаровым выкананьнем канстытуцыйнага абавязка.

Аднойчы пасьля начнога дзяжурства ты сьпіш да самага паўдня. Выходны дзень. Табе сьніцца лёккі й прывабны як у маленстве сон. Табе добра, грае «Назарэт». Не адразу, але ты прачынаешся. Навокал «пхд» (г. зв. парка-гаспадарчы дзень), памяшканьне мыюць, ложкі ссунуты й сапраўды гучыць назарэцкая «Сабачча поўсьць».

4.

Да працы мне ехаць хвілінаў 20—25. Самы прыемны маршрут. Спачатку я штодня бачу Дзяржаўны сьцяг па-над райвыканкамам. Пазьней справа мяне вітае наступны — гарвыканкамаўскі й адразу за ім лунае высока ў небе самы вялікі, пад якім гмах з габінэтамі ваблвыканкамаўцаў. Потым аўтобус збочвае налева: старасьвецкая камяніца аптэкі, помнік сп. Э. Ажэшкі, мост цераз р. Гараднічанку, дом-музэй сп. Элізы. Направа і — яшчэ адзін Бел-чырвона-белы сьцяг факультэта беларускай філялёгіі ды культуры Унівэрсітэта Я. Купалы.

Мабыць, я шчасьлівы чалавек, бо спраўдзіліся мае мары. Забароненая бальшавікамі трыяда: Бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоня й абрэвіятура БНР жывуць! Беларусь крыху набыла беларускай фарбы. Канешне, ёй яшчэ доўга быць Беларусьсю несапраўднай. Але несапраўдная Беларусь ужо не тое ж самае, што Бсср, якая зусім не Беларусь. Як у той показцы: «А Слава Капээсэс — зусім не чалавек».

9 траўня. Нашыя сьцягі аздабляюць нават дом культуры ахвіцэраў, вайсковы штаб, Кдб й нават зусім ужо нечаканыя установы. Дарэчы, палякі ад сёлета адзначаюць сьвята ў ягоную дакладную дату — 8-га. Яны справядліва лічаць гэты крок чарговым у пазбаўленьні ад савецкага ідэялагічнага ярма. У Маскве, як вядома, перамогу адзначылі толькі на наступны дзень. Традыцыя замацавалася, яе навязалі ўсходнеэўрапэйскім сатэлітам. А ўся Эўропа тым часам адзначала 8 траўня. Ну а ў нас усё па-старому. Але гэта дробязь побач з навіной — Загадам міністра абароны Беларусі, які, праўда, распачынаецца словамі «Таварышы салдаты, сяржанты і старшыны...» Ёсьць у гэтай фразе нейкая мэлядыйнасьць, рытміка, магла б няблага сьпявацца... у якасьці вайсковага гімну ўласных Узброеных Сіл. Зрэшты, яшчэ сьмяшней гучала б «спадары салдаты, прапаршчыкі і сяржанты».

Дарэчы пра помнікі. Мінула першае патрыятычнае замілаваньне і пры помніку польскай пісьменьніцы Э. Ажэшкі болей не ляжаць кьветкі, як й на палічцы каля бюста Я. Купалы, які знаходзіцца праз вуліцу ад дома пісьменьніцы і ўзіраецца ў ягоныя вокны. Наогул кветкі да помнікаў у нас апошнім часам кладуць рэдка, хоць прадаюць іх шмат, асабліва ружаў. Але купляюць кветкі часта й дораць пераважна жанчынам й дзяўчатам, якія ў Горадні вельмі пекныя.

5.

Наогул, незалежнасьць, нават несапраўдная, ужо плюс. Апроч сьцягоў нарэшце ў крамах ёсьць кілбаса, а тонкія сасіскі я ўвогуле ўбачыў упершыню пасьля часоў застою. Вось кажуць грошы будуць свае, напачатку рублі. Чорных, праўда, аднекуль панаехала, некаторыя нават пажаніліся з нашымі дзяўчынамі, дзяцей завялі. Але большасьць ходзяць хэўрамі й ці толькі гандаль іх цікавіць? Канешне, гэта пасільны даробак Беларусі ў мірнае сканчэньне карабахскага канфлікту, якая завабіла да сябе фізічна здаровых маладзёнаў, якія здольны трымаць у руках зброю. Зь іншага боку, а раптам яны ў нас паўладкаваліся, каб тутака купляць або нават красьці тую ж зброю для сваіх? Хто ведае. Цябе, дарэчы, некаторыя свае за іхняга ўважаюць. Але тыя аднак адчуваюць, што ты тутэйшы, нават калі зь імі на кірмашы спрабуеш размаўляць па-беларуску з каўказскім вымаўленьнем. Гэта як з тымі мурынамі, якія нам здаюцца ўсе аднолькавага колеру. А між тым, сэнэгальцы, напрыклад, зусім ня чорныя, а нейкія сіняфіялетавыя, нібы дасьпелыя сьлівы.

6.

Не, што ні кажы, але пры незалежнасьці дыхаецца лягчэй, нават асабліва не адчуваеш у паветры сярністы ангідрыт ды іншую атруту й пра радыяцыю амаль забыліся. Свабода, гэта калі, даруйце калямбур, можна вольна падпісаць у «Саюз (!) друку» газэту «Свабода», пра арганізатара якой праф. В. Іваноўскага нельга было ўзгадваць станоўча. Свабода, гэта калі гімн «Мы, беларусы» выконваецца без словаў, якія сёньня гучаць прынамсі анекдатычна. ...гэта калі часопіс «Коммунист Белоруссии» зрабіўся «Беларускай думкай», а бальшавіцкая фракцыя ў парлямэнце прыймае назву «Беларусь». А яшчэ ж ёсьць й «Новая Беларусь», Белполь, Белвест, Беліта і г. д. Беларускае войска, якім камандуюць расейскія афіцэры, а беларускія тым часам мусяць гібець у Расеі без амаль надзеі вярнуцца на Бацькаўшчыну й служыць ёй, а не чужой дзяржаве.

7.

Наш, собскай гадоўлі, сувэрэнітэт, нагадвае табе сьвята перапрананьня, маскарад. Але ты ня ведаеш, ці сапраўды грым ды парык не ўплываюць на душу актора й паскуднік застаецца паскуднікам, зайздросьнік — самім сабой, нахабнік — таксама... У амэрыканскім мультфільме пра труса Багса ёсьць чародаўка, у якой на галовай варагуючых паміж сабой гэрояў раз за разам зьмяняюцца капялюшы: паляўнічага, паліцыянта, ксяндза і г. д. Неверагодна, але паводзіны робяцца залежнымі ад кожнага новага аблічча! Ідэялізм? Магчыма. Але ж і марачы аб незалежнасьці ды ейных атрыбутах, вы рабілі яе ідэялісты. Папросту кожная незалежнасьць мае свой смак. Бульба, канешне, не ананасы ў шампанскім, але ж не ўсё адразу!

**1992 г. травень.**

